

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№ 1 (студзень), 2014

# Мяжа




**Куды падзелася права гарантаванае**

**Канстытуцыяй "на свабодны і незалежны суд"?**

(Старонка 11)

# ЗЬМЕСТ

# Праваабаронцы адзначаюць рэгрэс на мясцовых выбарах




Грамадзкая арганізацыя «Праваабаронцы — за свабодныя выбары» падрыхтавала справаздачу аб фармаваньні акруговых камісіяў на мясцовых выбарах 2014 году.

Намесьнік старшыні гэтай арганізацыі **Валянцін Стэфановіч** апавёў Свабодзе:

«Мы адзначаем значны рэгрэс і перадузятасьць пры фармаваньні акруговых камісіяў. Мы параўналі цяперашнія камісіі з акруговымі камісіямі падчас парлямэнцкіх выбараў у 2008 і 2012 гадах. У 2008 годзе 32% вылучэнцаў ад апазыцыйных палітычных партыяў трапілі ў склад камісіяў. У 2012 годзе іх было 24%. А зараз лічбы наступныя. Са 185 вылучэнцаў ад апазыцыйных партыяў у склад камісіяў трапілі толькі 11. Гэта каля 6% ад вылучаных. А агульная доля прадстаўнікоў апазыцыйных партыяў у складзе ўсіх акруговых камісіяў цяпер складае толькі 0,25%.

Мы таксама адзначаем, што не зьмяніўся характар непразрыстасьці пры правядзеньні пасяджэньняў органаў, якія фармуюць камісіі. У дадзеным выпадку размова ідзе пра сумесныя пасяджэньні аблвыканкамаў і прэзыдыюмаў абласных саветаў. Былі вельмі вялікія праблемы, каб трапіць на іх. У 43% выпадкаў прадстаўнікам кампаніі „Праваабаронцы — за свабодныя выбары“ не дазволілі там прысутнічаць.

Па-ранейшаму застаюцца праблемы, пра якія мы гаворым ужо ня першы раз. Гэта, у прыватнасьці, адсутнасьць крытэраў для адбору сябраў выбарчых камісіяў. А гэта аўтаматычна робіць неэфэктыўным абскарджваньне неўключэньня ў камісіі ў судах. Фактычна няма прадмету спрэчкі, бо няма крытэраў.

І па-ранейшаму застаецца абсалютнае права выканаўчай улады

на кантроль за фармаваньнем камісіяў. То бок камісіі традыцыйна складаюцца з прадстаўнікоў праўладных грамадзкіх арганізацыяў, кшталту афіцыйных прафсаюзаў, БРСМ, вэтэранаў і г.д.

Пры гэтым доля палітычных партыяў абсалютна мізэрная. І выходзіць, што галоўным суб’ектам тут робяцца праўладныя грамадзкія арганізацыі, якія ня маюць права, дарэчы, вылучаць кандыдатаў у дэпутаты».

*http://www.svaboda.org/content/article/25224084.html*

## Валянцін Стэфановіч: Беларусы паводле Канстытуцыі могуць не галасаваць на «выбарах»

Асноўны закон краіны дазваляе байкатаваць «выбары».

Пра гэта заявіў намеснік кіраўніка ПЦ «Вясна» **Валянцін Стэфановіч**. Такім чынам праваабаронца пракаментаваў сайту charter97.org забарону прызыву да не ўдзелу ў «выбарах».

«*У 2012 годзе, калі апазіцыя абрала тактыку байкоту «выбараў» і рэгістрацыі кандыдатаў, якія потым заклікалі да байкоту, Ярмошына сказала, што «некаторыя нядобрасумленныя кандыдаты знайшлі шчыліны ў заканадаўстве з мэтай зрыву дзяржаўнага мерапрыемства, якім з'яўляюцца «выбары». І дадала, што гэта трэба ўрэгуляваць, і пастанова ЦВК выключыла заклікі да байкоту «выбараў» з перадвыбарчай агітацыі. А мы на той момант казалі, што ў законе напісана, што ў нас забаронена перадвыбарная агітацыя і ў тым ліку заклікі да байкоту «выбараў» толькі ў дзень галасавання. Гэта значыць, што і перадвыбарная агітацыя, і заклікі да байкоту выбараў, якія паводле закону з'яўляюцца часткай перадвыбарчай агітацыі, не забароненыя*», - адзначыў юрыст.

Праваабаронца мяркуе, што заклікі да ўдзелу або не ўдзелу ў «выбарах» - гэта частка палітычнай палемікі.

«Калі я лічу, што ў нас «выбары» дрэнныя і не трэба туды хадзіць, то чаму я не магу быць вольным у сваіх выказваннях

адносна гэтай сітуацыі? Гэта частка палітычнай палемікі, і іх нельга ставіць у адзін шэраг з іншымі рэчамі, якія забараняюцца пры агітацыі», - перакананы праваабаронца.

Юрыст падкрэсліў, што Канстытуцыя Беларусі дазваляе не хадзіць на «выбары».

«Калі вы заклічаце суседа байкатаваць «выбары», то гэта не будзе разглядацца як парушэнне Канстытуцыі. І, па-мойму, забарона прызыву да байкоту - гэта наогул нейкія перажыткі савецкіх часоў. Бо тады ўсе цалкам хадзілі на «выбары», і, вядома, калі хтосьці заклікаў да байкоту савецкіх «выбараў», гэта ўспрымалася як антыдзяржаўная дзейнасць, і за такое тады на шмат гадоў саджалі ў турму або дурдом», - падсумаваў Валянцін Стэфановіч.

Нагадаем, пачынаючы з 1995 года ні адны выбары, ні адзін рэферэндум, якія праводзяцца ў Беларусі, не былі прызнаныя тымі арганізацыямі, якія ўпаўнаважаны міжнароднай супольнасцю назіраць за імі і даваць ім ацэнку. За гэты час падрыхтаваны сотні дакладаў, маніторынгаў, аналітычных матэрыялаў, даследаванняў пра фальсіфікацыі выбараў у Беларусі. Апісаны тысячы выпадкаў парушэнняў і фальсіфікацый. Міжнародныя назіральнікі да дробязяў знаёмыя з метадамі беларускага рэжыму ў забеспячэнні патрэбных вынікаў на выбарах.

Выснова аб тым, што ў Беларусі выбараў няма, была зроблены даўно як апазіцыяй, так і міжнароднымі назіральнікамі. Пасля 19 снежня 2010 года гэтая выснова стала больш жорсткай: пад выглядам выбараў у Беларусі здзяйсняецца злачынства супраць народа.

*http://charter97.org/be/news/2014/1/16/84029/*

## Лукашэнка выказаўся пра магчымую амністыю Алеся Бяляцкага

Кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з рэдактарамі некалькіх дзяржаўных і недзяржаўных выданняў

выказаўся пра магчымую амністыю асуджанага кіраўніка праваабарончага цэнтра “Вясна” Алеся Бяляцкага.

Жонка палітвязня Наталля Пінчук з сумневам успрыняла словы Лукашэнкі:

- Амаль што год таму Лукашэнка таксама выказаў вялікае здзіўленне з нагоды таго, што Алесь знаходзіцца за кратамі. Таму я б не надавала вялікага значэння сказанаму, бо гэта не ўпершыню, за гэтым няма канкрэтных дзеянняў, гэта толькі словы і больш нічога.

Па словах Наталлі Пінчук, яна і родныя астатніях палітзняволеных паверацць гэтым словам толькі тады, калі ўбачаць сваіх блізкіх на парозе роднага дому.

Алесь Бяляцкі асуджаны на 4 гады і 6 месяцаў зняволення па артыкуле Крымінальнага кодэкса аб утойванні прыбыткаў у асабліва буйным памеры. Але, як лічаць праваабаронцы, яго віна не даказана.

За асабістыя прыбыткі следства і абвінавачванне выдала сродкі, якія прызначаліся на дапамогу пацярпелым ад рэпрэсій і не належалі Бяляцкаму.

* * *

Падчас сустрэчы з кіраўнікамі беларускіх СМІ ў Палацы Незалежнасці Аляксандр Лукашэнка выказаў думку, што трэба разгледзець пытанне прымянення амністыі да праваабаронцы Алеся Бяляцкага.

Па словах праваабаронцы Таццяны Равякі, Лукашэнка робіць выгляд, што не ведаў пра кампенсаваныя Бяляцкім страты, якія нібыта былі нанесеныя дзяржаве, але ў цэлым цяпер сапраўды можна чакаць яго вызвалення:

- Канешне ўсе гэтыя справы ўсіх палітвязняў, у тым ліку і Алеся, яны будуць вырашацца палітычнай воляй, але для гэтага, як я бачу, прадумваюцца розныя прававыя механізмы. Магчыма як раз такі і выйшлі на публіку вось гэтыя роздумы пра тое, якія прававыя механізмы могуць быць ужытыя, каб палітвязні апынуліся на волі.

Пытанне Бяляцкага ўзняў падчас сустрэчы з Лукашэнкам дырэктар інфармацыйнага агенцтва БелаПАН Алесь Ліпай.

Па словах Равякі, Бяляцкі мае статус злоснага парушальніка турэмнага рэжыму, а Лукашэнка добра ведае ўсе падрабязнасці яго справы.

* * *

Аляксандр Лукашэнка даручыў першаму намесніку сваёй адміністрацыі Аляксандру Радзькову праверыць агучаную дырэктарам інфармацыйнай кампаніі БелаПАН Алесем Ліпаем інфармацыю пра тое, што прадстаўнікі грамадскасці даўно кампенсавалі ўрон, які, як устанавіў суд, нанёс дзяржаве праваабаронца Алесь Бяляцкі. Пра гэта кіраўнік дзяржавы заявіў 21 студзеня на сустрэчы з кіраўнікамі найбуйнейшых беларускіх СМІ ў Палацы Незалежнасці.

Ліпай, у прыватнасці, указаў на сустрэчы, што Бяляцкі, праваабаронца, быў асуджаны за нявыплату падаткаў у памеры каля 90 тысяч долараў. "Гэты ўрон дзяржаве ўжо даўно пакрыты за кошт ахвяраванняў грамадзян, хоць у нашай краіне не раз выпускалі на волю бізнесменаў, якія выплацілі буйнейшыя кампенсацыі. Дый у суседняй Расеі Пуцін нядаўна вызваліў з няволі свайго заўзятага саперніка Міхаіла Хадаркоўскага, урон ад дзеянняў якога вымяраўся непараўнальна большай сумай — 500 мільёнаў даляраў", — зазначыў Ліпай.

"Гэта сур'ёзны аргумент. Тут справа не ў палітыцы і не ў пазіцыі самога Бяляцкага. Клянуся вам, я яго не ведаў і не ведаю", — сказаў у адказ Лукашэнка, заўважыўшы, што "падаткі — гэта святое".

Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, калі інфармацыя пра кампенсацыю ўрону пацвердзіцца, можа быць разгледжанае пытанне пра ўжыванне да Бяляцкага амністыі.

Віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, кіраўнік закрытага ўладамі праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесь Бяляцкі быў затрыманы ў Мінску 4 жніўня 2011 года і адразу ж

узяты пад варту. Падставай для крымінальнага пераследу сталі даныя пра яго замежныя банкаўскія рахункі, перададзеныя ў Мінск чыноўнікамі Літвы і Польшчы ў межах двухбаковых пагадненняў аб прававой дапамозе.

Бяляцкі сваёй віны не прызнае і ў судзе заявіў, што яго крымінальная справа палітычна матываваная. Як растлумачыў праваабаронца, грошы, якія паступалі на яго рахункі, выкарыстоўваліся ў якасці дапамогі для грамадзян Беларусі, чые правы былі парушаныя. Банкаўскія рахункі былі адкрытыя за мяжой, бо беларускія ўлады неаднаразова адмаўлялі праваабаронцам у рэгістрацыі іх арганізацыі.

24 лістапада суд Першамайскага раёна прызнаў Бяляцкага вінаватым ва ўтойванні даходаў у асабліва буйным памеры і прыгаварыў яго да чатырох гадоў і шасці месяцаў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Акрамя таго, Бяляцкі павінен выплаціць дзяржаве ў якасці кампенсацыі 757 млн. 526 тыс. 717 рублёў (каля 90 тыс. долараў). У такую суму суд ацаніў "урон, нанесены злачынствам", і дзяржпошліну, якую павінен выплаціць абвінавачваны.

18 студзеня 2012 года гэта сума была пералічаная жонкай Бяляцкага Наталляй Пінчук на рахунак суда Першамайскага раёна. Грошы былі сабраныя грамадскасцю ў надзеі на тое, што кампенсацыя ўрону дазволіць суду змякчыць прысуд праваабаронцу. Аднак суд не ўзяў гэты факт пад увагу.

Праваабаронца адбывае пакаранне ў папраўчай калоніі № 2 Бабруйска, ён афіцыйна прызнаны вязнем сумлення.

*http://www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=21499#.Ut68y-eOHxg*

## Юры Жыдовіч: Дэпутаты Берасцейскага гарсавета адмаўляюцца даваць справаздачы

Паўторны зварот да старшыні Берасцейскага гарадскога Савету дэпутатаў Генадзя Масько накіравалі актывісты грамадскай ініцыятывы “Сацыяльны офіс” у Берасці.

Яны так і не дачакаліся адказу ад дэпутата – дзе, калі, колькі чалавек і па якіх пытаннях ён прыняў за выбарчы перыяд. Таксама грамадскія дзеячы цікавіліся, чаму астатнія 38 дэпутатаў не адказалі на звароты з такімі ж пытаннямі.

Актывіст грамадскай ініцыятывы Юры Жыдовіч выказаў меркаванне адносна таго, чаму народныя абраннікі так і не даслалі адказы на запыты:

- Бо ім, я думаю, няма чаго змястоўна адказаць. Бо яны не сустракаліся са сваімі выбарцамі, не давалі ім справаздачу. Аб чым яны могуць адказаць? Парушэнне закона ў тым, што яны павінны перыядычна даваць справаздачу аб сваёй дзейнасці сваім выбарцам. Другое парушэнне законаў у тым, што яны павінны адказваць на запыты грамадзянаў у вызначаныя законам тэрміны.

Юры Жыдовіч перакананы, што ў дадзеным выпадку Генадзь Маско парушыў закон "Аб звароце грамадзян". Чарговы зварот да дэпутата зафіксаваны дакументальна - 20 студзеня актывісты атрымалі па пошце афіцыйнае пацверджанне, што кіраўнік Берасцейскага гарадскога Савету дэпутатаў атрымаў накіраваны да яго ліст.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=21533#.UuFjQueOHxh*

## Уладзімір Малей: Працоўны рух прамая пагроза рэжыму

"*Уся краіна можа зараз назіраць, як сістэма пазбаўляецца ад непатрэбнага прафсаюза на прадпрыемстве "Граніт*", - адзначае праваабаронца, прававы інспектар Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў **Уладзімір Малей**. На яго думку, улады зробяць усё, каб не даць працоўнаму руху развіцца.

Праваабаронца Уладзімір Малей не адно дзесяцігоддзе абараняе ў судах інтарэсы прафсаюзных актывістаў і перакананы, што неабходна праходзіць усе судовыя інстанцыі адстойваючы свае правы:

- *Тыя законныя сродкі абароны, законных правоў і інтарэсаў*

*працоўных, нам неабходна прайсці, каб паказаць, што мы нязгодныя і абараняемся ўсімі магчымымі сродкамі. Найвышэйшы орган - гэта суд. Яны прайшлі і камісію па трудавых спрэчках, Мікалай Карышаў, ён зараз у судзе. Азнаёміўшыся з матэрыяламі справы я лічы, што наймальнік здзейсніў вылазку ў адзін з дней, і за адзін дзень у адносінах да Карышава былі складзеныя дзве накладныя.*

Уладзімір Малей адзначыў, што Лукашэнка добра памятае працоўны рух 90-х, і які ён меў вынік. Дзякуючы шматтысячным мітынгам рабочых, савецкая наменклатура была вымушана адступаць і выконваць патрабаванні грамадзян. Праваабаронца ўпэўнены, што працоўны рух прамая пагроза рэжыму.

*http://new.racyja.com/news/uladzimir-malei-pratsouny-rukh-pramaya-pagroza-rezhymu*

## Брэст: абласны суд пакінуў скаргу ў справе Віталя Каўша без задавальнення



10 студзеня ўступіў у сілу прысуд у дачыненні да жыхара Брэсцкага раёна Віталя Каўша, які раней быў пакараны да чатырох гадоў зняволення з канфіскацыяй маёмасці за арганізацыю незаконнай міграцыі.

В.Коўш быў абвінавачваны ў тым, што ў змове з іншай асобай спрыяў таму, каб з Расіі ў Беларусь у траўні 2012 года трапілі восем грамадзян Індыі, якім пасля нібыта арганізавалі незаконнае перасячэнне беларуска-польскай мяжы з дапамогай каната. Індусаў затрымалі і нейкі час яны знаходзіліся ў залятары часовага ўтрымання на тэрыторыі Брэсцкай памежнай групы. Пасля дэпартацыі гэтых грамадзян Індыі за межы Беларусі ў Інтэрнэце з’явіўся зварот, дзе яны распавялі, што падчас знаходжання ў

ізалятары іх прымушалі рабіць хлуслівыя сведчанні ў адносінах да асобы, якую асабіста не ведалі (гаворка ідзе пра Віталя Каўша).

У сакавіку 2013 года суд Брэсцкага раёна прызнаў Каўша вінаватым і прызначыў яму пакаранне ў выглядзе 4 гадоў турмы, аднак пасля абскарджвання гэтага рашэння абласны суд адмяніў прысуд і накіраваў матэрыялы справы на новы разгляд. Пазней той жа суд Брэсцкага раёна ў новым складзе падцвердзіў ранейшы прысуд і скарга на яго пакінутая без задавальнення.

Як лічыць праваабаронца Раман Кісляк, сапраўдных доказаў віны Віталя Каўша няма, а грамадзян Індыі адмовіліся запрашаць у Беларусь, каб яны выступілі ў судзе ў якасці сведкаў. Такім чынам, на думку праваабаронцы, адбываецца пераслед Каўша за ягоную грамадскую дзейнасць, бо раней Віталь браў удзел у шэрагу палітычных кампаній у Брэсце, быў затрыманы падчас акцыі салідарнасці з палітвязнямі і працаваў назіральнікам на прэзідэнцкіх выбарах у 2010 годзе.

*http://spring96.org/be/news/68372*

## Куды падзелася права гарантаванае Канстытуцыяй "на свабодны і незалежны суд"?

Доўгатэрміновы назіральнік па Берасцейскай вобласці **Уладзімір Вялічкін** пасля фармавання Берасцейскай гарадской камісіі зрабіў выснову, што парушаны прынцып справядлівасці выбараў:

- У выніку фармавання гэтых камісій я ўбачыў адно: туды патрапілі людзі пад выглядам збору подпісаў, пад выглядам прадстаўніцтва нейкіх грамадскіх аб’яднанняў, якія ўсё ж такі працуюць у сістэме ўлады. Старшыня камсіі - спадар Панасюк - першы намеснік кіраўніка адміністрацыі Маскоўскага раёна Берасця , намеснік старшыні – спадарыня Матысік, якая ўзначальвае аддзел арганізацыйна-кадравай працы ў гарвыканкаме.

Па словах Вялічкіна, ніхто з апазіцыянераў у камісію не трапіў. Праца камісіі ў такім складзе цалкам будзе падпарадкаваная выканаўчай уладзе. У выніку гэтых выбараў можна на 100 адсоткаў

прагназаваць, што дэпутаты будуць, як заўсёды, прызначаныя ўладай.

Супольнае пасяджэньне доўжылася меньш за 8 хвілін. За загадзя кулуарна падрыхтаваны спіс чальцоў выбарчай камісіі прагаласавалі адзінагалосна – абмяркаваньняў не было.

У выніку 30 сьнежня 2013 года група грамадзян Берасьця, абураная тым як быў сфармаваны склад Брэсцкай гарацкой выбарчай камісіі па правядзеньні выбараў у месныя Саветы дэпутатаў Рэспублікі Беларусь у 2014 годзе, зьвярнулася са скаргай на Брэсцкі гарвыканкам і Прэзідыюм Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў у Брэсцкі абласны суд. Яны палічылі, што іх права на ўдзел у вядзеньні дзяржаўных спраў праз свабодна абраных прадстаўнікоў і права галасаваць на сапраўдных перыядычных выбарах парушана і прасілі суд:

*"1. Прызнаць рашэньне Брэсцкага гарвыканкама і Прэзідыюма Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў ад 27 сьнежня 2013 года неправамоцным, парушаючым іх грамадзянскіе правы, прадугледжаныя арт.арт. 2 і 25 пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, а таксама арт. 11 Выбарчага кодэкса;*

*2. Абавязаць Брэсцкі гарвыканкам і Прэзідыюм Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў выправіць зьдзейсьненыя парушэньні, а менавіта паўторна правесьці супольнае пасяджэньне дадзеных органаў і сфармаваць Брэсцкую гарацкую выбарчую камісію шляхам сапраўднага абмяркаваньня ўсіх прэтэндэнтаў на супольным пасяджэньні Брэсцкага гарвыканкама і Прэзідыюма Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў".*

Суддзя Анатоль Літоўчык у сваім адказе мясцовым праваабаронцам і прадстаўнікам грамадскай супольнасці паведаміў, што гэтая справа непадсудная для разгляду ў Брэсцкім абласным судзе.

Рашэнне суддзі Літоўчыка, які адмовіўся разглядаць скаргу, заяўнікі абскардзяць ў Вярхоўным судзе, бо суддзя парушае, на іх думку, права гарантаванае Канстытуцыяй "на свабодны і незалежны суд"!

# Брэст: шанцаў абскардзіць рашэнне аб фарміраванні гарадской выбарчай камісіі не засталося




Праваабаронцы і дэмакратычныя актывісты з Берасця абскардзілі рашэнне Прэзідыума Брэсцкага гарадскога Савета дэпутатаў і Брэсцкага гарвыканкама ад 27 снежня аб фарміраванні гарадской выбарчай камісіі па выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў у Брэсцкім абласным судзе.

Праваабаронца **Уладзімір Вялічкін**, які прысутнічаў на сумесным паседжанні па фарміраванні гарадской выбарчай камісіі, адзначае, што на паседжанні, якое доўжылася роўна 8 хвілін, на галасаванне быў адразу пастаўлены спіс сяброў гарадской камісіі. Пры гэтым аніякага абмеркавання прапанаваных кандыдатур не праводзілася. У сувязі з чым можна меркаваць, што рашэнне пра фарміраванне гарадской камісіі было падрыхтаванае загадзя.

Заяўнікі, сярод якіх Дзяніс Турчаняк, Раман Кісляк, Зміцер Шыманскі, Уладзімір Вялічкін, ды іншыя, прасілі суд ў сваёй скарзе ад 30 снежня прызнаць рашэнне Прэзідыума Брэсцкага гарадскога Савета дэпутатаў і Брэсцкага гарвыканкама незаконным, паколькі яно абмяжоўвае права на ўдзел у вядзенні дзяржаўных спраў шляхам свабодна абраных прадстаўнікоў, абавязаць выправіць дапушчаныя парушэнні і паўторна правесці паседжанне, каб нанава сфарміраваць Брэсцкую гарадскую выбарчую камісію з абавязковым і адкрытым абмеркаваннем усіх прапанаваных кандыдатур.

31 снежня суддзя Брэсцкага абласнога суда **А. Літоўчык**, разгледзеўшы скаргу, вынесла вызначэнне аб адмове ва ўзбуджэнні

справы па скарзе на падставе непадсуднасці разгляду яе Брэсцкім абласным судом.

Заяўнікам было прапанавана звярнуцца са скаргаю ў суд Ленінскага раёна Брэста. Таксама паведамлена, што на рашэнне абласнога суда можа быць вынесены пратэст у Вярхоўны суд Беларусі.

Уладзімір Вялічкін скарыстаўся гэтай магчымасцю і падаў прыватную скаргу на рашэнне Брэсцкага абласнога суда ў судовую калегію па грамадзянскіх справах Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь. Сваю пазіцыю ён падмацаваў тым аргументам, што згодна з часткай 6 артыкула 34 Выбарчага кодэкса Беларусі “скарга на рашэнне аб фарміраванні выбарчай камісіі, падаецца адпаведна ў абласны, Мінскі гарадскі, раённы, гарадскі суд”, у залежнасці ад узроўня фарміруемай камісіі. Скарга, якая падавалася на дзеянні па фарміраванні Брэскай гарадской выбарчай камісіі, павінна быць накіраваная ў гарадскі суд. Але паколькі ў Брэсце адсутнічае гарадскі суд, то лагічна, што скаргу актывісты падалі ў суд абласны, а не суд Ленінскага раёна.

23 студзеня судовая калегіі па грамадзянскіх справах Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь разгледзеўшы скаргу Уладзміра Вялічкіна, пакінула яе без задавальнення, а рашэнне Брэсцкага абласнога суду без зменаў, фактычна праігнараваўшы слушныя аргументы заяўніка.

*http://spring96.org/be/news/68663*

## Сяржук Русецкі: Наступны крок - Вярхоўны суд



Бярозаўскія праваабаронцы не змаглі дамагчыся справядлівага разгляду справы старшынёй Берасцейскага абласнога суда Тамары Сучок. Яна пакінула без зменаў рашэнне суда Бярозаўскага раёна і абласной

судовай калегіі, а заяву бярозаўскіх праваабаронцаў не задаволіла.

Практычна Тамара Сучок паўтарыла слова ў слова рашэнне сваіх калегаў ніжэй рангам, кажа праваабаронца Сяржук Русецкі:

- І судовая калегія, і старшыня абласнога суда, а за імі і прадстаўнікі раённага суда прыходзяць да высновы, што палажэнне гэтага рашэння не супярэчыць міжнароднаму пакту пра грамадзянскія і палітычныя правы, не паглябляючыся больш дэтальна ў самі пярэчанні, якія сведчаць пра тое, чаму гэтае рашэнне не адпавядае міжнароднаму пакту.

Паводле слоў Русецкага, калі і Вярхоўны суд аб’ектыўна не разгледзіць скаргу праваабаронцаў пра незаконную забарону Бярозаўскім райвыканкамам пікету 4 жніўня, скіраванага ў падтрымку беларускіх палітычных вязняў, то зварот будзе накіраваны у Камітэт па правах чалавека ААН.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=21320#.UtbHYedb_xh*

## Як напісаць скаргу на мяжы?

Кожны чалавек, які ў час свайго падарожжа мусіць перасякаць мяжу, хоча зрабіць гэта як мага хутчэй, без непатрэбных клопатаў і страты часу. А што рабіць, калі, напрыклад, знаходзячыся на польскім баку мяжы, узнікне канфлікт паміж падарожнікамі і Памежнай ці Мытнай службай? У такім выпадку кожны можа выказаць сваё незадавальненне тым, як праходзіць пашпартна-мытнае афармленне.

Аднак варта своечасова паспрабаваць скантактавацца з кіраўніком змены, які мусіць аб’ектыўна пацве

рдзіць, ці была парушана форма пашпартна-мытнага афармлення, ці былі парушэнні правілаў з боку супрацоўнікаў памежных службаў. Калі і пасля гэтага падарожнік не будзе задаволены, то можн

а напісаць скаргу. Яна можа быць напісана ад рукі на польскай, беларускай ці рускай мовах. Памежныя службы добра ведаюць гэтыя мовы, таму няма патрэбы ў перакладзе.

Ліст са скаргай падарожнік перадае кіраўніку змены, які мусіць

яго прыняць і паставіць пячатку. Таксама трэба памятаць, што арыгінал скаргі павінен быць вернуты падарожніку, а памежным службам застаецца ксеракопія. Паводле правілаў, адказ на скаргу павінен прыйсці цягам двух тыдняў.

Варта ведаць, што ёсць магчымасць паразмаўляць непасрэдна з Камендантам Памежнай службы ці кіраўніком мытнага аддзела, але толькі ў іх працоўныя гадзіны: ад 7.15 да 15.15. Пасля такой размовы рэакцыя на скаргу, як правіла, неадкладная.

А што рабіць, калі ўзнікне такая патрэба ў іншыя гадзіны? То ёсць яшчэ адна магчымасць. Зараз на кожным памежным пераходзе на шыбах пунктаў пашпартнага і мытнага кантролю ёсць спіс тэлефонаў да дыжурных службаў. Дастаткова патэлефанаваць па адным з пададзеных нумароў, як рэакцыя будзе той жа, што і ў прыведзеным вышэй прыкладзе.

У выпадку відавочных парушэнняў з боку супрацоўніка памежнай службы, які заслугоўвае вымовы за свае паводзіны, можа быць пачата расследаванне, а затым можна чакаць і адпаведных дысцыплінарных наступстваў.

ЗАДАЕМ ПЫТАННІ нашаму эксперту з панядзелка да пятніцы з 10.00 да 15.00 паводле беларускага часу, з 9.00 да 14.00 паводле польскага часу.

КАНТАКТЫ

+48 (85) 676 80 26 (стацыянарны нумар)

+48 664 515 604 (мабільны нумар)

Электронная пошта: darangas@wp.pl

Таксама можаце пакідаць свае пытанні ў каментарах. Усе пытанні і адказы эканамічнага эксперта знойдзем на сайце www.racyja.com.

*http://www.racyja.com/index.php?id=102&zoom=21326#.UtbHaOdb_xh*

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны
«Мяжа»